# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 5 (1499) ГОД XXX БЕЛАСТОК 3 ЛЮТАГА 1985 г. ЦАНА 8 зл.




Беласток, вуліца Ліповая.

Фота Я. Целушэцкага.

## ПЕРСПЕКТЫВЫ ГОРАДА БЕЛАСТОКА

Аб перспектывах развіцця горада Беластока ішла гаворка ў час прэс-канферэнцыі, наладжанай у Ваяводскім праўленні 14 снежня 1984 года. Дырэктар аддзела ўрбаністыкі інжынер архітэктар **Леанард Будрык,** прысутны на гэтай канферэнцыі, адкрыў нам крыху тайнаў аб планах разбудовы сталіцы нашага ваяводства.

— Завяршаецца ўжо распрацоўка падрабязнага прасторнага загаспадарання Беластока, — сказаў ён. — Яна вялася пад аўтарскім наглядам дацэнта **Галіны Саўчук-Навары.** Перш за ўсё трэба ведаць, што гэтая самая буйная ў паўночна-ўсходняй Польшчы гарадская агламерацыя надалей, як губка ваду, будзе ўбіраць у сябе міграцыю з навакольных вёсак і пасёлкаў Беласточчыны. На працягу 10 гадоў насельніцтва Беластока павялічыцца на 50 тысяч чалавек.

Мне прыпомнілася, што гадоў 10 таму назад удзельнічаў я ў навукова-папулярнай сесіі, прысвечанай развіццю Беластока да 2000 года. Сесія так і называлася **„Беласток — 2000“.** Прадбачвалася тады, што наш горад распаўзецца аж пад Супрасль, Хорашч, Заблудаў і Васількаў, што гэтыя падбеластоцкія пасёлкі стануцца яго натуральнымі спадарожнікамі.

Няўмольная рэчаіснасць ранагамі ўсе гэтыя намеры.

— Гэта звычайна, — кажа інжынер Л. Будрык, — што найлепшым карэктарам усялякіх планаў з'яўляецца жыццё. І таму мы вымушаны больш-менш кожныя пяць гадоў аднаўляць свае планы прасторнага загаспадарання горада Беластока і іншых гарадоў і раёнаў нашай Беласточчыны.

Варта ведаць, што архітэктар Леанард Будрык ужо звыш 30 гадоў свайго жыцця прысвяціў урбаністычнаму прыадзеўку нашай роднай зямлі. Кажа ён, што асноўным клопатам, які не дае спаць беластоцкім архітэктарам, з'яўляецца распрацоўка новых планаў для жыллёвага дзяржаўнага, спулдзельчага і прыватнага будаўніцтва. Кожная канцэпцыя выклікае зараз заўзятыя спрэчкі, бо трэба выходзіць за межы ўжо існуючай забудовы. У цэнтры рэзервы тэрыторыі пад высокае будаўніцтва, у асноўным з вялікіх панеляў, якія прадукуюць фабрычнымі метадамі, ужо вычарпаліся. Зараз вайна ідзе за **Баяры.** Гэты квартал горада ў асноўным забудаваны прыватнымі драўлянымі асабнякамі. У 101 доме жыве 347 сем'яў. Забудова тут традыцыйная, напамінаючая Беласток з першай палавіны нашага стагоддзя. Прыхільнікі старой мінуўшчыны ўзнялі шуміху, каб не кранаць Баяраў і стварыць у гэтым месцы жывы музей драўлянай архітэктуры. Толькі ці варта і можна пазбавіць людзей магчымасці палепшыць сабе ўмовы жыцця?

Інжынер Л. Будрык кажа, што архітэктары пад кіраўніцтвам дацэнта Г. Саўчук-Навары прабавалі неяк пamірыць прыхільнікаў старыны і сучаснасці.

— Прапануем, — гаворыць ён, — у раёне вуліц **Сташыца, Кашыковай** і **Вікторыі** пакінуць фрагменты старой забудовы, а ўсё іншае прызначыць на развалку.

Адразу пасыпаліся пытанні, што будзе з дамамі, якія астануцца, хто ў іх будзе жыць, на што яны прызначаюцца?

— Паводле нашай канцэпцыі, — адказаў дырэктар Л. Будрык, — у гэтых дамах надалей астануцца цяперашнія іх уласнікі. Гарадская рада павінна забараніць ім змяняць самавольна выгляд сваіх сяліб. З фондаў кансерватара помнікаў народнага дойлідства атрымаюць яны крыху грошай на рамонт гэтых будынкаў і на захаванне іх прыстойнага выгляду. Вышыня аднаразовай датацыі можа дасягаць 23 прац. коштаў рамонту. Уласнікам паасобных

(Працяг на стар. 4)

Новыя вершы

## ГАЛЬШТУК

*Станіславу Турскаму, былому рэктару Варшаўскага універсітэта прысвячаю*

Фашысты на галіне ў лесе
Збіраліся яго павесіць,
На шыі быў ужо з пятлёй.
І вось для немцаў нечакана
З дубровы выйшлі партызаны,
І разгарэўся цяжкі бой.
Былі ж тут партызаны ў сіле
І вязня карнікам адбілі,
Пакуль свой здзейснілі прысуд.
Проста ў апошнюю хвіліну
Яго паўмёртвага з галіны
Знялі, як быццам стаўся цуд.
З тае пары ўжо аніколі
На ацалеўшай шыі болей
Ён гальштука не завязаў.
Гальштук здаецца той пятлёю,
Што шыю абвіла змяёю,
І заціскае, як удаў.

## НІКОЛІ Ў ГЭТА Б НЕ ПАВЕРЫЎ

Калі б мне нехта ў маладосці
Сказаў, што я, вясковы хлопец,
У вёсцы буду толькі госцем,
Што стану ездзіць па Еўропе,

Што ў горадзе я апынуся,
Пакіну вёску адзін з першых,
Што землякам я, беларусам,
Чытаць усюды буду вершы,

Што дасягну дыпломаў вузаў,
Працы цікавай у краіне,
І што мяне ніколі муза
Ужо не здрадзіць, як жанчына,

Што будзе жыць яна са мною
Тут, у сталічнае кватэры —
Прызнацца мушу, у такое
Раней ніколі б не паверыў.

**Віктар Швед**




(Працяг на стар. 2)

## НА МЯЖЫ

### АБ ПІСЬМЕННІКАХ

Гаварыць аб паэтах гэта значыць гаварыць аб чудаках. І што б мы не сказалі аб такім ці іншым паэтычным індывідыуме, ён будзе пераканані, што сказалі мы аб ім замала пахвальнага і замнога крытычнага. Пісьменнік гэта часта разбэшчанае дзіця, якому на кожным кроку трэба гаварыць: — Ай, маладзец хлопчык! Ох, прыгажунчык! Ох, зух! — нават тады, калі гэты хлопчык залезе на стол і зробіць нешта зусім супрацьстаўнае да спажывання ежы.

Бадай што найгоршая з'ява сярод пісьменнікаў гэта самахвальства, настырнае патрабаванне ад іншых захаплення, якое мяжуе з культам і абагаўленнем.

Вядомы савецкі паэт Міхаіл Святлоў меў звычку, напісаўшы ноччу верш, скажам, а другой ці трэцяй гадзіне ночы, званіць да знаёмых і чытаць нованапісаны твор. Гавораць, што аднаго разу вырваны з пасцелі знаёмы, выслухаўшы верш, зяўнуў і адказаў: „А ці ты ведаеш, што цяпер трэцяя гадзіна ночы?" На гэта Святлоў адказаў сапраўды дасціпна: „А я думаў, што дружба гэта з'ява кругласутачная". З гэтай сапраўды смешнай рэплікі вынікае, што Святлоў прыпісаў сабе права на тое, каб сваіх сяброў будзіць у любую пару ночы.

На жаль, такі падыход да справы характарызуе многіх паэтаў, празаікаў і драматургаў. Як молі, усвідроўваюцца яны ў чужы час, у чужыя заняткі, у чужую душу з той мэтай, каб паказаць сваё ўласнае.

Як жа многа ёсць аўтараў, якія бесцырымонна ў сваёй справе патрапяць пяць разоў званіць у нейкую ўстанову і напамінаць аб тым, напрыклад, што іх зборнік яшчэ не надрукаваны, а ўжо даўно павінен выйсці ў свет. Ёсць і такія, якія з тае прычыны, што рэдактар часопіса не апублікаваў іх твора, пачынаюць гэтага рэдактара ачарняць, як найгоршага жуліка.

Бяда таксама з тымі, якія,

(Працяг на стар. 7)

(Працяг са стар. 1)




НАЛІЎ САБЕ ШКЛЯНАЧКУ..

(Працяг на стар. 4)

# КНІЖКА ПРА БЕЛАРУСКІЯ СПРАВЫ

*„Беларускія справы ў Другой Рэчыпаспалітай"* *) — пад такім загалоўкам з'явілася ў свет наступная кніжка Аляксандры Бергман. Нельга параўноўваць яе з папярэдняй — *„Слова пра Браніслава Тарашкевіча"*. Гэтая ж уяўляе сабою зборнік манаграфічных артыкулаў, публікаваных раней у розных часопісах, а цяпер прагледжаных ды пашыраных новымі звесткамі. Падзелены яны на дзве групы — з мінулага рэвалюцыйнага руху беларусаў у дваццатыя гады, біяграфіі нацыянальных налых дзеячоў.

Найбольш увагі прысвечана Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі і Беларускай сялянска-работніцкай грамадзе. Сціпла паказана Беларуская рэвалюцыйная арганізацыя, хоць і адыграла яна значную ролю ў фармаванні КПЗБ. Вінавата ў тым, вядома, не аўтарка, а адсутнасць або недаступнасць архіўных крыніцаў. Бергманіха, можна сказаць, зрабіла ўсё магчымае, каб дакапацца да праўды. Яе смела назавем адкрывальніцай заходнебеларускай гісторыі нам, польскім беларусам, ды не толькі! Гэтая жанчына выканала работу, пра якую нябожчык Ян Чопік-Лежахоўскі, польскі паэт з Уроцлава і сябар нашай культуры, сказаў, што яе вынікі можна параўнаць з вынікамі працы цэлага інстытута.

У біяграфічнай частцы тома знаходзім дакументаваныя вопісы жыцця і дзейнасці Браніслава Тарашкевіча, Антона Луцкевіча, Леапольда Родзевіча, Ігната Дварчаніна, Сымона Рак-Міхайлоўскага, Максіма Бурсэвіча, Паўла Валошына. І тут жа надобная праблема — пра гэтых выдатных людзей даведваемся ўсяго з тых крышынак інфармацыяў, якія знаходзяцца на старонках даўніх, пераважна малакамплектных газет, у рэштках судовых актаў або ў незагубленых пісьмах, ці ў старэчай ужо памяці людзей, што шчасліва дажылі да нашых дзён як сведкі тадышніх падзеяў.

Чытаючы напісанае Аляксандрай Бергман, думаецца і так: наша шчасце вялікае, што аб'явілася яна са сваім даследніцкім талентам! Наўкола нікагуткі не відаць, хто мог бы гэтак заядла адшукоўваць сляды беларускай палітычнай гісторыі, не так ужо і павярхоўна прысыпаныя адшумеўшымі трагічна эпохамі і варагамі нашага народу. Гэта праўда, што нямала напісана і пра КПЗБ, і пра легендарную Грамаду. Аднак жа, апроч агульнычыны надакучлівай, тае стылістычні лістовак, мала чытач канкрэтнага даведваўся. І раптам — Бергманіха ўскрывае перад нашым зрокам д э т а л ь, быццам нейкі фрагмент акропаля ў пясках аравійскай пустыні. Дзякуючы ёй, мы — унукі і праўнукі Тарашкевічавай спадчыны — атрымалі магчымасць зазірнуць у той, адышоўшы ад нас, свет барацьбы і пакут, у штодзённічыну апостальскіх нам постацей. Пазнаём механізмы важных здарэнняў, бачым, як шмат залежала ад той або іншай адзінкі, ад яе волі або і не волі; як магло, звычайна, не адбыцца тое, што адбылося якраз. Лепшай гістарычнай адукацыі і не трэба чалавеку.

Прыходзіць у галаву і такая рэфлексія: быць ідэйным гэта значыць быць гатовым плаціць за яе ўсім сваім жыццём, а нават і галавою! Іначай — ідэйнасць выйдзе на хітрасць нікчэмніка, якому абы белы хлеб і да хлеба. Апісаныя Бергманіхай велічаны Заходняй Беларусі, усе да апошняга, загінулі, нават так, што і па сённяшні невядомыя іхныя магілы. Няма месца для салюту ў іх памяць, але ў кожным з нас, свядома ці падсвядома, існуюць іхныя думкі, надзеі і спадзяванні. Здарылася найгалоўнае — рэвалюцыйны зварот на шляхах народнага побыту, і ўжо іншая зусім справа, наколькі мы здольныя пакарыстацца гэтым.

Што яшчэ ашаламляе ў кнізе? Характарыстыка ўмоў, у якіх набіраўся мацаты, разгортваўся, а затым гэтак жа занепаў беларускі нацыянальны рух, адраджэнскі па сваёй сутнасці. Шэраг загадак знакаміта дэшыфравана, рэшта чакае спадкаемцаў у навуцы ды лепшых часоў. Беларусі надзвычайна пашанцавала — без расійскай рэвалюцыі анемічнасць беларускага нацыянальнага адраджэння была б выкарыстана дзяржаўнымі шавіністамі так, што лепей аб тым не думаць. Даволі будзе дадаць тут, у парадку растлумачэння, што польскую даваенную палітыку ў адносінах да заходніх беларусаў прадвызначала н а ц ы я н а л ь н а е развіццё Беларускай ССР; няшчасце перыяду, званага *„культам асобы"*, адбілася ў выглядзе санацыйнай праграмы сквапнага вынішчэння ўсяго беларускага на *„крэсах"*, што і ўчынена было канчаткова ўвесну 1939 года. Гэта былі — **зваротныя залежнасці.**

Міжваенне — тыя асаблівыя часы, калі шмат-дзе палітыкай кіравалі інтэлектуалісты, прафесары. Увесь камуністычны рух тады ды ягоную практыку рэалізавалі часта тэарэтыкі, некаторыя значнага фармату. У заходнебеларускім варыянце палітычнай Еўропы дало гэта наогул благія вынікі. Нават самому Тарашкевічу часамі не хапала інстынкту палітыка, што знаходзілася неяк у нашай традыцыі беларускай. Палітычная наіўнасць загубіла не адно ў пачынаннях Антона Луцкевіча, які стаяў ля калыскі беларускага руху ў яго сучасных праявах. Праўда, лёгка ацэньваць усё гэта з далечыні амаль паўстагоддзя або і больш. Тады, магчыма, не было іншага выйсця, і, магчыма, яны, нашы вялікія, усё дакладна разумелі — слабому застаецца толькі паверыць магнейшаму, з іхай надзеяй на яго пачуццё справядлівасці ды мараль... Заўсёды так ёсць, што няма поўнай здаволенасці зробленым, пакінутым у яго працяг

(Працяг на стар. 6)




### ЗАВОД У КАЛГАСЕ

Кансервавы завод уведзены ў дзеянне ў буйной палескай гаспадарцы — калгасе „Дружба" Іванаўскага раёна. Прадпрыемства разлічана на вытворчасць аднаго мільёна ўмоўных слоікаў кансерваў з агародніны, саленняў і сокаў у год. Першая прадукцыя ўжо адпраўлена спажыўцам.

Уласнае перапрацоўчае прадпрыемства дазваляе больш поўна выкарыстоўваць вырашчаную на палях прадукцыю, скарацці яе шлях да спажыўца. У калгасах і саўгасах Брэсцкай вобласці дзейнічае больш за сто падсобных прадпрыемстваў па выпуску сталярных вырабаў, будаўнічых матэрыялаў, дрэнажнай тары. Нарошчваюцца магутнасці па выпуску пладоваагародніннных кансерваў, саленняў, кумысу. Створана некалькі калгасных скуранных і воўначасальных цэхаў, пашывачных майстэрань. Гэтыя промыслы дазваляюць перааодолець сезоннасць у выкарыстанні працоўных рэсурсаў, выпускаць дадаткова прадукцыі больш чым на 55-60 мільёнаў рублёў у год.

### ЗА ЗАСЛУГІ Ў РАЗВІЦЦІ ЛІТАРАТУРЫ

За заслугі ў развіцці савецкай літаратуры і ў сувязі з 50-годдзем Саюза пісьменнікаў СССР Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР узнагародзіў ордэнамі групу беларускіх пісьменнікаў.

Ордэна Кастрычніцкай Рэвалюцыі ўдастоены Пімен Панчанка. Ніл Гілевіч і Язэп Семяжон узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга; Рыгор Барадулін, Кандрат Крапіва, Іван Чыгрынаў — ордэнам Дружбы народаў. Ордэна „Знак Пашаны" ўдастоены Святлана Алексіевіч, Сяргей Законнікаў і Віктар Казько.

### ТОНКАСУКОННЫ КАМБІНАТ

У Гродна датэрмінова ўведзены ў строй пускавы комплекс новага тонкасуконнага камбіната. Прадпрыемства аснашчана дасканалымі станкамі, на пераналадкаванне якіх трэба ўдвая менш часу, чым пры абслугоўванні старой тэхнікі. Гэта дазволіць значна расшырыць асартымент тканін, палепшыць іх якасць.

З дасягненнем праектнай магутнасці камбінат будзе штогод даваць 4,8 мільёна квадратных метраў модных тканін — на мільён больш, чым раней.

### „МІНСК" — У ВАЛГАГРАДЗЕ

Напярэдадні святкавання 40-годдзя Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне Беларусь у ліку пятнаццаці саюзных рэспублік прымае ўдзел у рэканструкцыі аб'ектаў гандлю горада-героя Валгаграда.

Мінскім архітэктарам даручана абнаўленне буйнейшага валгаградскага гастранома, размешчанага на праспекце Леніна. Магазін будзе называцца „Мінск". Беларускія спецыялісты распрацавалі арыгінальны праект. Гастраном будзе аформлены ў беларускім нацыянальным стылі. Мастацка-дэкаратыўныя работы, установку газасветлавой рэкламы і афармленне рэкламы ў памяшканні, а таксама аддзелачныя работы пад кіраўніцтвам Галоўнага архітэктурна-планіровачнага ўпраўлення выканаюць лепшыя майстры беларускай сталіцы.

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 309

## ПАЎТОРНАСЦЬ НЕПАЎТОРНАГА

379

Даруючы каму-небудзь кнігу — даруеш розум.

380

Калі хочаш ехаць у дарогу з сябрам — вазьмі кнігу.

381

Нават малая кніга — вялікае падарожжа ў свет.

382

Калі табе сумна — чытай кнігу;
Калі табе весела — чытай кнігу;
Калі табе абыякава — чытай кнігу.

383

Да так неабходных фактараў чалавечага жыцця, як хлеб, вада і паветра, далучаецца сёння кніга.

384

Лістаць кнігу можа і малпа, але чытаць здолее толькі чалавек.

385

Чытаючы раманы, шукай сябе не толькі ў плеядзе пазітыўных, але і адмоўных герояў.

386

Ёсць людзі, устойлівасць якіх у неўспрыманні ведаў можна параўнаць з цвёрдасцю тытану.

387

Народ, які не мае гісторыі кнігі, не мае гісторыі грамадства.

388

Калі крадзеш у бібліятэцы кнігу, абкрадаеш усё чалавецтва.

389

Перачытвай кнігу так доўга, пакуль не заўважыш, што рысы яе адмоўных герояў выступаюць у тваім характары.

390

Там, дзе толькі вузкія кругі людзей кормяцца праўдай, шырокія колы спажываюць ману.

391

Тых беларусаў, якія не хочуць сябе залічваць да беларускай нацыянальнасці, гісторыя не залічыць да чалавечнасці.

392

Чалавек, які лічыць сваё нацыянальнае паходжанне перашкодай у жыцці, сам з'яўляецца завадай для жыцця.

393

Кніга — адзіны антыдотум на смерць.

394

Старайся перапісваць з кожнай добрай кнігі ў кодэкс сваёй душы не толькі прыгожыя фразы, але і высакародныя ідэі.

395

Як у бібліятэках стаяць у згодзе адна каля другой кнігі з рознымі поглядамі і супрацьстаўнымі ідэямі, таксама мірна павінны суіснаваць людзі, народы і сістэмы.

396

Багацей, які шкадуе грошай на кнігу, — бядак.

397

Кніга гэта скарб, які здабываеш, нікога не аграбіўшы.

398

Ньютаны і Мендзялеевы пачыналі ад „а" і „б".

**Алесь Барскі**

---

Чалавек, які ішоў побач са мною
згорбіўся ад маленькага болю
чалавек ішоў па разжараным вуголлі
і так вельмі хацеў расказаць
гісторыю аднаго шэрага жыцця
жыцця, якое нарадзілася
на скрыжаванні дарог

Чалавек ішоў побач са мною
час ад часу усё ж здзіўлены паўтараў:
дзе мой час?
рэха прашаптала:
у згубленых снах...

Чалавек ішоў побач са мною
і так вельмі хацеў заспяваць
цудоўную песню сваю
але месяц-скрыпач узяў іншую мелодыю
і вусны чалавека застылі...
цішыня

Чалавек, які ішоў побач са мною
па разжараным вуголлі
усё сказаў:
ён маўчаў
ногі гарэлі

**Надзея Артымовіч**

### ПОЎНАЧ

За Паўстоўскім
іду берагам Чорнага мора
да адной з узбярэжных піўнушак.

З нуды, гультайства, цяжкога паветра
выплывае сэнс жыцця
і топіцца ў шклянцы віна.

Ціхая, лагодная музыка
дапаўняе маю
ўнутраную гармонію.

**Мікола Ваўранюк**

* * *

Імчымся
на Ікара крылах
няведама куды
— — — — —
цесна нам на гэтай планеце
— — — — —
мы перараслі сябе.
?!...
мы перараслі людское паняцце.

**Жэня Мартынюк**



В. Сіверскі

* * *

над вінкамі слідым дорогу пшчолы
— маро маро — в матылькув крыльця
рвуцьця
добратісь бы нам на сэрэдіну кія
на край ночы калі нэ спіцьця
похіляным над колышкою
закрыта тайна будушчого
голубі голубі
чэрпай з встрыэчы
— хто паявіцьця выразній

**Зося Сачко**

* * *

час
прыручыў мяне аж так
што ем яму з далоні зерне забыцця
гаворыць мне: разумная канарэйка
маленькая
паглядзі: клетку маеш зусім
прасторную
вада ў місачцы з таго боку —
хустачка
каб замнога не ўбачыла
не памерла —
з жаху з любві са смерці
канарэечка ты мая

**М. Лукша**

## УСПАМІНЫ

Беражэм мы ў сабе, як у касе,
Мноства мар, сотні розных ідэй,
Каб адтуль іх зноў выцягнуць
часам,
І пазнаць аб іх погляд людзей.

Нас з мінулым злучылі ўспаміны,
Што жадаем, то цягнем на свет,
Як не хочам, здымаем з вітрыны,
А ў тайнік замыкаем сакрэт.

Успаміны нас грэюць, як сонца,
Успаміны нас студзяць, як лёд,
То нам горыч прыносяць
бясконца,
То салодзяць жыццё нам, як мёд.

Мы без мрояў, надзей, успамінаў
У пячорах жылі б да сіх пор,
Ці скакалі б між дрэў па галінах,
Ці тачылі каменны тапор.

А на крылах жывых успамінаў
Мы лятаем над пушчай даўнін
І плывем па пражытых краінах
Між забытых лясоў і раўнін.

Сустракаем сяброў і знаёмых,
Абдымаем каханых дзяўчат.
Заглядаем да дзіўных харомаў
І да кволых ад старасці хат.

І чым больш ёсць у нас успамінаў,
Тым жыццё багацейшае ў нас,
Бо на кожных слядах каляінаў
Большы вопыт даруе нам час.

**Д. Шатыловіч**

Камень
аснова
на якой трэба стаяць
ты
камень
цвёрды
моцны
сваёй красой душэўнай
лечыш мае раны
ты
камень
мая асалода
крыніца душэўнага
жыцця
ты
аснова.

**Яніна Шостак**

— проста нікуды. А ваду для Беластока прыдзецца браць з далёка, бо аж з Нарвы, з вадасховішча, якое зараз будуецца між Бандарамі і Семяноўкай. Толькі, каб адтуль вада пацякла ў беластоцкія дамы, неабходна збудаваць для яе спецыяльны шлях цераз рэчку Супрасль і другое, крыху меншае вадасховішча каля пасёлка Супрасль. Між іншым, і таму ў гэтым напрамку кіруецца зараз разбудова горада над рэчкай Белай. Магчыма, што да 2000 года дойдзе ён амаль да Супраслі.

Ацяпленне дамоў мае забяспечыць разбудаваная цэнтральная цяперашняя электраэнергетычная станцыя ЭЦ-2 і праектаваная ЭЦ-3. Толькі няма пакуль што шанцаў, каб збудаваць новую электраэнергетычную станцыю. Эканамічны крызіс усё

(Працяг на стар. 8)



Беласток патрабуе вады. Сістэмай каналаў будзе яна пастаўляцца з вадасховішча, што між Бандарамі і Семяноўкай. Яго пабудова працягваецца без перапынку, што бачым на гэтым здымку. Фота аўтара.




## І НА НАШАЙ ВУЛІЦЫ...

. Аж мяне распірае, каб пахваліцца, што і на нашай вуліцы будзе свята. Якое? Вялікае. Вёска мяняе свой выгляд, неўзабаве толькі назва астанецца. Яе нельга мяняць. Не мы назвалі вёску Старым Беразовам і не нам яе мяняць. Хоць у апошні час круцяць, напісалі „Старыбэрэзув". Як яшчэ перакруцяць? Нават М. Куптэль прапанаваў змяніць назвы Старому Беразову і Махнатаму, бо яны спалучыліся. А як назавеш? Старое Махнатае? Махнацкія жыхары не захочуць. Махнацкае Беразова? Беразоўцы не згодзяцца. Хай будзе па-старому. Нічога, што вёска называецца Старое Беразова. Жыццё ў ёй цячэ па-новаму. Дамы новенькія, з кожным годам іх больш і больш. Бяда толькі з вадой. А вядома як без вады: ні туды і ні сюды. Аднак і гэта да пары. Ужо рыюць і ў нас. Дай Божа, каб хутчэй дарыліся да гэтай вады. А то яна ўжо які год цячэ толькі ў планах.

А так жывем прыгожа. Дачакаліся, што і сонца загараецца на сасне. І асфальт будзе, і тратуар. Ну, проста, наблізімся да горада.

Ходзяць чуткі, што з вясновым ветрам пачнецца ў нас і будаўніцтва клуба. Мо, урэшце, сапраўды нешта з гэтага выйдзе. Бо клуб патрэбны, як невядома што. Моладзі ў нас шмат. Перш за ўсё вечарам, калі з'едзецца дадому. Куды ёй тады падзецца? Праўда, ёсць клубік, але маленькі, цесненькі: карты, жарты, а карысці як кот наплакаў.

А моладзь у нас культурная, гасцінная, сама ахвотна паказалася б і іншых прыняла б. Бойкі ў нас даўно выйшлі з моды. Было б толькі дзе разгарнуцца, а нашы не падвядуць.

Аднак, думаю, калі мір будзе над нашым небам — і на нашай вуліцы будзе свята.

**Г. Мароз**

## Этнаграфічнае закенца



**Бельскі краязнаўчы музей. Хамут, драўлянае і скуранае ярмы. Фота М. Гайдука.**

## З БЕЛАРУСКАГА ЛІЦЭЯ Ў БЕЛЬСКУ

З 66 выпускнікоў, якія закончылі Беларускі ліцэй імя Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім у 1984 г., 45 стала студэнтамі розных вышэйшых школаў (III месца ў ваяводстве).

Вельмі цікавы выпуск! Вось некаторыя факты, запісаныя са школьнай хронікі.

Аж 7 асоб з гэтага выпуску паступіла ў вузы ў СССР. А гэта: Іван Іванюк і Іван Колнер — Політэхнічны Інстытут у Маскве, Яраслаў Ляшчынскі і Яраслаў Майстровіч — Політэхнічны Інстытут у Ленінградзе, Аліцыя Малец і Барбара Амельянюк — Сельскагаспадарчы Інстытут у Маскве, Эва Матысюк — Медыцынскі Інстытут у Кіеве.

Як наогул вядома, у Савецкі Саюз едуць вучыцца толькі добрыя і здольныя вучні.

Калі думаю пра Беларускі ліцэй, заўсёды насоўваюцца розныя цікавыя вывады. Цяпер таксама. У далейшым Беларускі ліцэй служыць трамплінам да вялікай навукі масе маладых людзей з сялянства. З 45 студэнтаў 1984 г. выпуску аж 20 асоб — дзеці сялянскія, 12 — рабочых, 13 — інтэлігенцыі, (тут з папраўкай) іх бацькі былі дзецьмі вёскі, а вельмі часта таксама самі канчалі свой Беларускі ліцэй.

Шматпакаленевая вернасць беларускаму ліцэю — цудоўнейшая з'ява ў нашым сучасным грамадскім жыцці і сведчыць аб магутным уздзеянні ліцэя на рост нашай самасвядомасці як беларусаў і нашай культуры ў дзяржаўным маштабе.

Іншае назіранне: сялянскія дзеці, якія заканчваюць беларускі ліцэй, не баяцца рызыкі і цяжкасцей у далейшай вучобе. Дадзеныя з кожнага выпуску паказваюць, што сялянскія дзеці (як хлопцы, так і дзяўчаты) часцей, чым дзеці з інтэлігенцкіх сем'яў, выбіраюць напрамкі, звязаныя з тэхнікай, эканомікай, медыцынай і сельскай гаспадаркай. Цікавая рэч — здаецца, не надта ахвотна сялянскія дзеці выбіраюць цяпер прафесію настаўніка, што яшчэ 30 гадоў таму назад (не гаворачы аб даваенным перыядзе) было самай іх вялікай марай.

Бельскі беларускі ліцэй праіснаваў 40 гадоў, вырастаючы на вялікі і непадважальны цэнтр праменявання беларускасці, чаго і на наступныя 100 гадоў жадае яму ад усяго сэрца яго стары і верны выпускнік, разам з падзякай за гонар быць ім.

**Вера Леўчук**

і бацькі яны належна ўладкаваліся ў Гарадзенскім княстве, а пры панаванні на кіеўскім пасадзе швагра і брата Мсціслава Уладзіміравіча (нарадзіўся ў 1075 годзе, вялікім князем кіеўскім быў у 1125-1132 г.г.), імкнуліся расшырыць свае ўладанні. Мабыць, таму ў 1127 г. Усеваладка са сваімі палкамі ўдзельнічаў у арганізаваным Мсціславам вялікім паходзе на ўсходняга суседа Гарадзеншчыны — Полацкую зямлю. Відаць, гарадзенскі князь скарыстаў на гэтым падвойна: паперша, швагер, несумненна, шчодра адудзячыўся наданнем яму нейкай заходняй часткі званай Полаччыны, а падругое, кровапралітнае, жорсткае скарэнне ўсходняга суседа было на руку Усеваладку, бо ўзвышала ролю Гарадзенскага княства і яго ўладара не толькі ў палітычным жыцці, але і ў гандлі з заходнімі краінамі. А паход Мсціслава ў 1132 г. на Літву — у якім хоць „киян тогда много побиша Литва", затое быў узяты „полон мног" — рушыў ужо па просьбе ды намове гарадзенскага княжацкага сужонства. Ён жа ж быў нацэлены на скарэнне паўночнага суседа Гарадзеншчыны і здабыццё праходу па Нёману ў Балтыйскае мора. Аднак хоць у яго выніку Гарадзенскае княства пашырыла свае ўладанні і ўмацавала паўночныя рубяжы, усё ж вольнага выхаду на Балтыку не дабілася. Летапісы пра гэта маўчаць. Але аўтарытэт Гарадзенскай зямлі сярод іншых княстваў выдатна вырас.

Пасля смерці Усеваладкі (1141 г.) яго сыны прымаюць актыўны ўдзел у палітычным жыцці Усходняй Славяншчыны. У 1144 г. Барыс і Глеб Усеваладкавічы са сваімі палкамі ўдзельнічаюць у паходзе, які падняў вялікі князь кіеўскі супраць князя галіцкага. У 1150-1151 гадах Барыс Усеваладкавіч водзіць сваё войска на Кіеў і дапамагае свайму дваюраднаму брату Ізяславу Мсціславічу заняць вялікакняскі пасад. А ў 1167 г. бачым Глеба Усеваладкавіча з гарадзенскім войскам аж у Каневе, дзе ён разам з іншымі князямі адбівае і забяспечвае ад полаўцаў вялікія гандлёвыя шляхі ў Візантыю і на Каўказ. У паходзе супраць полаўцаў у 1170 г. прымае ўдзел Мсціслаў Усеваладкавіч. Ён, відаць, таксама ў 1169 г. вадзіў гарадзенскія палкі ў дапамогу Андрэю Багалюбскаму. Між іншым, тады быў здабыты, страшэнна зніштожаны і дашчэнту разграблены Кіеў. Яго таксама („Городеньский Мьстислав") называе летапісец у ліку князёў, якія ў 1184 г. удзельнічалі са сваімі войскамі ў вялікім паходзе на полаўцаў, перамаглі іх і вярнуліся „восвояси со славою и честью великою".

Пра папулярнасць Мсціслава Усеваладкавіча і пашану да яго як абаронцы ўсходнеславянскіх зямель ад пагрозы з усходу і захаду найбольш красамоўна сведчыць пахвала яму ў славутай паэме „Слова аб палку Ігаравым" (напісана каля 1187 г.). Якраз пра яго і ягонага паўднёвага суседа, князя валынскага Рамана, у паэме чытаем:

*А ты, буйны Раман, і Мсціслаў!*
*Адважная думка нясе ваш*
*розум на подзвіг.*
*Высока ўзлятаеш на подзвіг*
*у парыве,*
*як сокал, на ветрах лунаючы,*
*імкнучыся птушку смела*
*адолець.*
*Маеце ж вы жалезных малойцаў*
*пад шлемамі лацінскімі.*
*Ад іх уздрыгнулася зямля*
*і многія краіны —*
*Хінава, Літва, Яцвягі,*
*Дзерамела —*
*і полаўцы коп'і свае кінулі,*
*а галовы свае схілілі*
*пад тыя мячы стальныя.*

Прыгадайма, што Хінавай у тых часы называлі народы Усходу, а Дзерамелай — адно з балтыйскіх плямёнаў.

Не адно актыўным удзелам ў палітычных падзеях ва Усходняй Славяншчыне і асабістай воінскай доблесцю ўславіліся гарадзенскія князі. Панаванне

(Працяг на стар. 6)

пенні і частка сцен рухнулі, пасля гэтай катастрофы не адбудоўвалася).

Н. Варонін пра „Ніжнюю“ царкву, між іншым, піша: „Незвычайна маляўнічы быў ... знешні выгляд храма ... У ніжняй частцы муру, паміж неатынкаванымі цэгламі, былі ўстаўлены вялікія каляровыя польныя камені з натуральна гладкай або прыгожа адшліфаванай паверхняй, а ўверсе ззялі маёлікавыя пліткі, якімі былі абліцаваны бакі выступкаў і вузкія зрэзы навугольнікаў, яны стваралі розныя геаметрычныя ўзоры. Паміж цэгламі былі ўстаўлены паліваныя місачкі. Завершаныя аркамі вузкія вокны, якія былі размешчаны ў верхняй частцы сцен, упускалі многа святла ў сярэдзіну храма. Дах над паўарачнымі скляпеннямі быў пакрыты срабрыстай алавянай бляхай, а купал у выглядзе шлема — напэўна пазалочанай бляхай. Такі выгляд меў княжацкі храм, які ўзвышаўся над крэпасцю ...“

Пра ўнутраны выгляд царквы Н. Варонін гаворыць: „Унутраны дэкор храма таксама меў цалкам своеасаблівы характар: сцены не былі, як звычайна, пакрыты фрэскамі, але захоўвалі натуральны ружова-белы колер цэглы і расцёртай вапны, а на гэтым фоне выступалі круглыя адтуліны шматлікіх гліняных гаршчкоў-галаснікоў, якія былі ўмураваны ў сцены для змяншэння іх цяжару і павышэння акустычных уласцівасцей гмаху. Затое багата быў аздоблены іканастас, а падлога выкладзена красачнымі маёлікавымі пліткамі жоўтага, зялёнага і карычневага колераў, яны на падкупальнай частцы складалі замысловаты ўзор. Падчас археалагічных раскопак была выяўлена ў рэштках згарэўшага іканастаса вялікая колькасць яе металічных фрагментаў: іканастас быў увесь упрыгожаны іконамі і гафтаванымі заслонамі, акаваны рэзбленымі плітамі з пазалочанай медзі, абвешаны каляровымі шклянымі аздобамі ў медных рамках. Агульнае ўражанне дапаўнялі царкоўнае пазалочанае абсталяванне і вісячыя свечнікі“.

Гэта вучоны вычытаў з таго, што захавалася ў зямлі, з велічнасці і красы храмавага будаўніцтва з эпохі Усеваладкі і Агафіі і іхніх сыноў у сярэднявечным Гарадзенскім княстве. Ці трэба дадаваць, што яму спадарожнічала развіццё розных форм выяўленчага мастацва — жывапіс, разьба, мастацкая коўка і ліццё, гафт, ткацтва і інш. — пісьменства, музыка, і г.д.? Або ці неабходна напамінаць, што гарадзенскі культурны цэнтр праменіў на вялікі абшар тэрыторыі, які цяпер складае Беласточчыну? І, пэўна, зусім ужо лішне падкрэсліваць: у стварэнні гэтых каштоўнасцей прымалі самы непасрэдны ўдзел нашыя продкі — тадышнія насельнікі гэтай жа часткі нашага рэгіёну.

**Мікола Гайдук**



Нашыя самадзейнікі. Уладзімір Пісанка — гарманіст з гуртка БГКТ у горадзе Беластоку. Фота М. Гайдука.

Я не здзіўляюся, што Дзмітрый Карповіч сёння ўжо не памятае нават загалоўкаў гэтых газет. Іх было, сапраўды, вельмі многа. І на розных мовах. Найважнейшая з гэтых газет гэта газета **„Малады камуніст“**, якая выдавалася на чатырох мовах: па-беларуску, па-руску, па-яўрэйску і па-польску. Выходзіла яна ў гадах 1924-37. Друкавалася ў падпольных друкарнях КПЗБ, якія знаходзіліся ў Вільні, Гродне і Беластоку. Беластоцкі гарадскі камітэт Камсамола Заходняй Беларусі выдаваў на польскай мове сваю газету пад загалоўкам *„Беластоцкі КЗМ-овец“*. Адначасова ў рукі маладых камуністаў траплялі газеты КПЗБ, таксама — рознамоўныя, з якіх найбольш вядомая была газета на беларускай мове **„Чырвоны сцяг“**. Спадарожнічала яна ўсёй падпольнай дзейнасці беларускіх камуністаў — ад пачатку заснавання Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі ў лістападзе 1924 года аж да яе роспуску ў 1938 годзе. Здаралася, што паяўляліся газеты мясцовага абсягу, вось як *„Лесаруб у барацьбе“ — „газета Цэнтральнага і Беластоцкага камітэтаў КПЗБ“*, як інфармуе надпіс пад загалоўкам гэтай газеты. Яе выдавалі дзеля падтрымкі бастуючых лясных рабочых, якія дамагаліся лепшай платы за сваю цяжкую працу.

— У лясных забастоўках, — адзначае Дзмітрый Карповіч, — мае свой скромны ўдзел і наша камсамольская ячэйка. Бачыце, Польшча перажывала тады свой эканамічны крызіс. Толькі не такі, як зараз, сапраўдны, галодны крызіс. Беспрацоўныя цэлымі групамі вандравалі з горада ў горад, каб дзе-лень зачапіцца за нейкую працу, каб зарабіць хаця залатоўку. Выкарысталі гэта нарадчыкі працы ў лесе і абарвалі плату лесарубам. Камуністы звярнуліся да рабочых, каб аб'явіць забастоўку. Нарадчыкі не вельмі перапалохаліся. Яны ведалі, што на месца аднаго бастуючага знойдуць пецярых іншых рабочых, якія згодзяцца працаваць за кожную плату. Партыя кінула лозунг: *не дапусціць да працы штрэйкбрэхераў, значыць, ламістрайкаў!* А нам, маладым, ды да таго яшчэ і выхаваным у лесе, два разы паўтараць гэтага заклiку не трэба было. Ведалі мы тут усе дарогі, трыбы і сцежкі. Узброіўшыся сякерамі, нажамі і дубінкамі, перапынялі мы ў лесе дзядзькоў, ласых на заробак, і прапанавалі ім, каб спакойна сабе вярталіся дамоў. А калі не, дык нажом па вужвах, або сякерай па аглоблях!

— Дзмітрый Карповіч моўчкі ўсміхнуўся той ціхай, загадкавай усмешкай, якой сталыя людзі квітуюць сваю грэшную маладосць, маўляў, дурацкія, але як жа цудоўныя гады!

— Толькі трэба вам ведаць, што ўсё ж такі не ўдалося нам пазбегнуць бліжэйшага знаёмства з дзяржаўнай паліцыяй. А ўсё цераз радыёпрыёмнік...

Гэта мяне зацікавіла. То ж вядома, што ў даваенны час радыёпрыёмнік быў вялікай рэдкасцю на вёсках. Памятаю, што ўпершыню давялося мне пачуць голас і спеў па радыё ў 1939 годзе. Наш вясковы каваль, і стояр у адной асобе Сцяпан Страпчук прывёз аднекуль чор-

(Працяг на стар. 8)

(Працяг са стар. 2)

## НА МЯЖЫ

схапіўшы нумар газеты, у якім апублікаваны іх твор, а тым болей зборнік са сваімі вершамі, мітусяцца як мошка па белым свеце, разглядаюцца вакол сябе і, калі толькі ў абсягу іх зроку апынуўся нейкі знаёмы або незнаёмы чалавек, кідаюцца да яго і суюць яму пад нос свае творы. Калі гэта не дае відавочнага эфекту, пачынаюць на сілу чытаць сваё несмяротнае. Існуе таксама з боку такіх аўтараў страшэнны націск на крытыкаў. Калі нейкі крытык выкажацца мінімальна крытычна аб творчасці такога аўтара, той або арганізуе супраць яго акцыю, даказваючы, што ён некампетэнтны і прымітыўны, або пры дапамозе лёстачак стараецца пераканаць яго, што павінен ён напісаць новую рэцэнзію — ацэнку, у якой усе „не“ павінны быць заменены на „так“.

Трэба сказаць, што такія дзеянні аўтараў даюць значныя вынікі. Вядуць яны да пашыранай папулярнасці асоб з настырнымі характарамі. Прынцып: „рэклама — рычаг гандлю“ выказвае сваю паспяховасць не толькі ў адносінах да гандлю, але і ў адносінах да літаратурнай прадукцыі.

Многім чытачам можа здавацца, што я асуджаю прадстаўленыя тыпы аўтараў. А тым часам я ім шчыра зайздрошчу. Мне здаецца, што аўтар, які не саромеецца пісаць, не павінен сарамецца і рэкламаваць напісанае. Я сустрэў калісьці маладога аўтара, які ганарыўся тым, што не чытаў нічыіх кніжак. Ён горда заяўляў: „Калі хачу нешта добрае пачытаць, дык сам сабе напішу“. Прынцып вельмі цікавы. Аднак, што сталася б з аўтарамі, калі б так сказалі ўсе чытачы?

На шчасце, усё сказанае не адносіцца да „белавежцаў“.

**Алесь Баркі**




Maria Selewoniuk, Nadzieja Osipiuk — Charakterystyka odmian zbóż i ziemniaków zrejonizowanych w województwie białostockim. Wojewódzki Ośrodek Postępu Rolniczego, Białystok 1984, s. 14.

Stanisław Wakuliński — rzeźba, malarstwo. Wystawa w 30-lecie pracy twórczej. Biuro Wystaw Artystycznych w Białymstoku, 1983, s. (16).

Nauka i szkolnictwo wyższe w regionie białostockim w 40-leciu PRL. Patriotyczny Ruch Odrodzenia Narodowego, Rada Wojewódzka w Białymstoku, 1984, s. 132.

Mieczysław Pawlik — Wiatraki północno-wschodniej Polski. Filia Uniwersytetu Warszawskiego, Białystok 1984, s. 251, cena 120 zł (seria: Rozprawy UW).

Leszek Moszyński — Grecko-słowiański indeks wyrazów cyrylometodejskiego przekładu czterech Ewangelii (referat dyskusyjny). Zakład Języków Słowiańskich Uniwersytetu Gdańskiego, Gdańsk 1984, s. 15.

**П. Байко**

(Працяг са стар. 5)

## ПЕРСПЕКТЫВЫ ГОРАДА БЕЛАСТОКА

яшчэ абмяжоўвае нашы патрэбы. Гэтую ЭЦ-3 маюць выручыць дзве раённыя цяплоўні. Астаецца тады маліцца, каб зімы ў нас не былі занадта халоднымі.

Калі будзе ўжо дзе жыць, трэба мець дзе працаваць і чым даехаць да працы. У прамысловым кругаглядзе Беластока карэнных змен не прадбачваецца. Наш горад дастаткова насычаны прамысловасцю. Трэба толькі, каб беластоцкія прадпрыемствы паспявалі за сучасным тэхнічным прагрэсам. Беспрацоўе, на шчасце, ані нам, ані нашым дзецям і ўнукам не пагражае.

Што тады з гарадскім транспартам? Архітэктар Леанард Будрык кажа, што справа будучыні гарадскога транспарту канчаткова яшчэ не вырашана. **Перамагае, аднак, канцэпцыя пабудовы ў Беластоку трамвайнай лініі, якая звязвала б асноўныя жылыя і прамысловыя раёны горада. Спецыялісты з Лодзі супольна з прадстаўнікамі Беластока вядуць ужо распрацоўку канкрэтных планаў першага этапа трамваізацыі Беластока. Першая лінія праходзіла б ад Сонечнага Стока па вуліцы Уладзіслава Гамулкі і далей праз вуліцу Гагарына і Алею 1 Мая аж на Дайліды і ў раёне вуліцы Пяста крыжавалася б з другой лініяй — ад Пяста праз пасёлак Міцкевіча (новай вуліцай) да Шэнвальда і праз Зварынецкі лес на вуліцу Капэрніка і далей у Старасельцы.** Найдалейшы доступ да трамваю — 15 мінут пешшу. Найбольш складаная праблема — гэта як трамвайную лінію перакінуць праз цэнтр горада, асабліва ў раён касцёла святога Роха і на гэтым адрэзку Першамайскай вуліцы, дзе яна мяжуе з гарадскім паркам, дзе пасярэдзіне растуць старыя дрэвы. Прыдзецца іх зрэзаць.

Трамвай даволі галаслівы, але затое ён не занячышчвае паветра. У пабудове трамвайнай лініі абяцалі сваю дапамогу цэнтральныя ўлады.

Гэта і ёсць асноўныя перспектывы развіцця Беластока, аб якіх ішла гаворка ў час гэтай жа прэс-канферэнцыі ў ваяводы.

**Віктар Рудчык**

**ТАЯМНІЦЫ НАВОКАЛ НАС**

Ужо ў даўнія часы мёду прыпісваліся ўласцівасці захоўваць маладосць і бадзёрасць чалавека. Для прыкладу, возьмем славутых старажытнагрэчаскіх вучоных. Піфагор увесь час цвярдзіў: „Спажывай мёд і дажывеш маіх год". Дэмакрыт на 105 годзе свайго жыцця напісаў: „Дзеля захавання здароўя нутро трэба паліваць мёдам, а знешнасць — маслам". Паўтары тысячы год пасля гэта ж паўтарыў Авіцэнна: „Калі хочаш захаваць маладосць, то абавязкова еш мёд". Авіцэнна асабліва рэкамендаваў рэгулярнае спажыванне мёду асобам ва ўзросце болей за 45 год.

У наш час лячэбныя ўласцівасці мёду агульнавядомыя. Асабліва спрыяльна ён уздзейнічае на страўнікава-кішэчны тракт. Зніжае павышаную кіслотнасць страўніка, рэгулюе абмен рэчываў і таму ўжываецца як лячэбны сродак пры гастрыце (нежыце) і язвавай хваробе (вжодах) страўніка і дванаццаціперснай кішкі. Розныя аўтары рэкамендуюць розныя лячэбныя дозы мёду. Адны прапануюць прымаць адну сталовую лыжку (30-60 грам) тры разы ў суткі, прытым днём доза мёду можа быць крыху большай. Хворым з павышанай кіслотнасцю (надквасотай) страўнікавага соку трэба прымаць мёд на паўтары-дзве гадзіны перад ядой пры тым раствораны ў цёплай вадзе. Хворым з паніжанай кіслотнасцю (недаквасотай) — прымаць перад ядой раствораны ў халоднай вадзе. Час лячэння — паўтара-два месяцы. Другія аўтары рэкамендуюць прымаць мёд нашча, нагрэўшы яго, павольна ядучы па 150-200 грам тры разы ў суткі. Час лячэння — 15-20 дзён.

У сувязі з тым, што мёд — багатая крыніца лёгка засваяльных вугляводаў, яго можна шырока ўжываць у харчаванні і лячэнні пры вычарпанні і аслабленні арганізма. У народнай медыцыне найбольш пашыраны такія рэцэпты:

I. 100 грам мёду, 100 г сметанковага масла, 100 г шмальцу або гусінага тлушчу, 15 г соку алоэ (aloesu) і 100 г какао разагрэць разам (але не кіпяціць!) і прымаць па адной сталовай лыжцы на шклянку гарачага малака два разы на дзень (раніцай і ўвечары).

II. Лісці алоэ ва ўзросце 3-5 год трымаць у цемнаце і ў тэмпературы 4-8°C на працягу 12-14 дзён, затым прамыць іх, пакрышыць і заліць кіпячонай вадой у прапорцыях 1 : 3, паставіць стаяць на гадзіну-паўтары. Атрыманы сок адціснуць. 100 г гэтага соку змяшаць з 500 г пакрышаных грэцкіх арэхаў і дабавіць 300 г мёду. Прымаць па адной сталовай лыжцы тры разы ў дзень на паўгадзіны перад ядой.

Асабліва карысны мёд дзецям. Для іх даволі ў дзень адной-дзвюх гарбатных лыжачак. У друку падаюцца цікавыя звесткі пра спрыяльнае ўздзейнічанне мёду пры начным нетрыманні мачы ў дзяцей, таму што ён мае агульны ўмацоўваючы і супакойваючы ўплыў на нервовую сістэму.

# ЛЯЧЭННЕ МЁДАМ

У народнай медыцыне мёд з сокам з агародніны рэкамендуюць для лячэння хворых гіпертоніяй (павышаным ціскам крыві). Напрыклад, шклянку соку з чырвоных буракоў, шклянку соку з морквы, шклянку соку з хрэну (сцёрты хрэн напярэдне настойваюць з вадой на працягу 36 гадзін) і сок з аднаго лімона (цытрыны) змяшаць з адной шклянкай мёду. Прымаць па адной сталовай лыжцы 2-3 разы ў дзень на гадзіну перад ядой або праз 2-3 гадзіны пасля яды. Час лячэння — два месяцы. Сумесь можна нарыхтаваць без соку з буракоў. Гэтае лякарства трэба захоўваць у начынні, якое шчыльна зачыняецца, у халаднаватым месцы. У пачатку хваробы такі спосаб лячэння часам дае добры вынік.

Пры аслабленай сардэчнай мышцы (mięśnia sercowego) вельмі карысна лякарства: адну сталовую лыжку сухіх пладоў шыпшыны (дзікай ружы) заліць дзвюма шклянкамі кіпетню і кіпяціць 10 мінут. Астудзіўшы, працадзіць і дадаць адну сталовую лыжку мёду. Прымаць па чвэрці — палавіне шклянкі 2-3 разы ў дзень. Лякарства трымаць у шчыльна зачыненым начынні.

Пчаліны мёд — гэта агульнаўжывальны хатні лячэбны сродак пры прастудных захворваннях. Асабліва карысны ліпавы мёд. Пры прастудзе мёд рэкамендуецца прымаць з гарачай гарбатай або малаком нанач, з лімонам, малінай і іншымі раслінамі, якія маюць патагоннае або адхарквальнае дзеянне.

Для прыкладу можна рэкамендаваць такія частаўжывальныя рэцэпты:

I. Адну сталовую лыжку высушанага лісця падбелу звычайнага (лацінская назва — Tussilago farfara L., польская — podbiał, руская — мать-и-мачеха обыкновенная) загатаваць, як гарбату. Затым, калі адвар крыху астыне, працадзіць і дадаць сталовую лыжку мёду. Прымаць па адной сталовай лыжцы 2-3 разы ў дзень як адхарквальны сродак.

II. Адну сталовую лыжку высушаных ягад чорнага бэзу (бузіны) загатаваць у адной шклянцы кіпетню. Настайваць 20 мінут, працадзіць, дадаць адну сталовую лыжку мёду. Прымаць па чвэрці шклянкі як патагонны сродак.

III. Замест ягад чорнага бэзу можна ўзяць адну лыжку кветак ліпы або дзве сталовыя лыжкі сухіх (або 100 г свежых) ягад маліны. Усё іншае таксама, як у рэцэпце II.

Пры грыпе народны лек — гэта сумесь мёду з часнаком: ачышчаны часнок сцерці на тарцы, змяшаць з мёдам (лепш за ўсё — ліпавым) у прапорцыі 1 : 1 і прымаць перад сном 1 сталовую лыжку, запіваючы цёплай вадой.

У апошнім часе паявіліся артыкулы пра клінічныя назіранні, якія сведчаць пра дабратворнае супакойваючае ўздзеянне мёду пры некаторых захворваннях нервовай сістэмы, напрыклад, неўрастэніі. Супакойваючае дзеянне мёду выяўляецца і пры лячэнні бяссонніцы. Шклянка цёплай вады з адной сталовай лыжкай мёду

(Працяг на стар. 11)

(Працяг са стар. 7)

# БУНТАЎШЧЫКІ

ную скрыначку з навушнікамі, а між клуняй і хатай на высокіх жэрдках развесіў доўгі дрот, які адным канцом падключыў да гэтай чорнай скрыначкі.

— Гэта антэна, — заявіў ён аднавяскоўцам, якія натоўпам зышліся паглядзець на Сцяпанава цуда. — Яна будзе лавіць голас з паветра...

Некаторыя бабулькі перахрысціліся, сплюнуўшы за сябе тройчы, маўляў, прападзі ты пропадам, сіла нячыстая! То ж паветра чыстае, неба блакітнае, адно толькі ластаўкі, вераб'і і вароны лётаюць... А дзе ж гэты голас?

А каваль Страпчук надзеў на галаву навушнікі, пакруціў нешта ў чорнай скрыньцы і ў навушніках штосьці запішчала, затрашчала ды і голас пачуўся. Найперш па-польску, а пасля і па-руску...

Грыбаўскія камсамольцы расстараліся лепшы радыёпрыёмнік, з якога дабываўся голас без навушнікаў. Цэлая вёска магла слухаць адначасова.

— Найбольш мы марылі, — гаворыць Дзмітрый Карповіч, — каб паслухаць Маскву або Мінск. На станцыі Валілы жыў адзін спецыяліст па радыётэхніцы, Вашкевіч. Ён згадзіўся змайстраваць нам лямпавы радыёпрыёмнік з запраўкай ад спецыяльнай батарэі, бо электрычнасці ў нашай вёсцы тады яшчэ не было. Набытак аказаўся не пад сілу камусьці аднаму з нас. Даваўлося парадачна папрацаваць у лесе і ў багатых гаспадароў, каб зарабіць грошы на гэтую пакупку, але радасць, каб вы ведалі, якая была!

Найперш гэты радыёпрыёмнік абсталявалі ў хаце Карповічаў. Таксама на панадворку паявілася высокая антэна. Збіраліся людзі, Міцька хутка лавіў у эфіры маскоўскую радыёстанцыю і па хаце разлівалася мілая сэрцу руская песня. Гэта тады ўпершыню пачулі ў Грыбаўцах славутую „Кацюшу".

І ў Грыбаўцах праз адкрытае акно Лукашовай хаты плылі і словы і музыка, адчуваўся рытм вялікага краю, які ўсім маладым камсамольцам здаваўся тады раем абяцаным. Усё было цікавае, усё хацелася паслухаць, усё ведаць...

Бацькі пачалі бурчаць, што, маўляў, самі носа ад радыёпрыёмніка не адрываюць, ды яшчэ і іншых ад работы адводзяць!

— Разаб'ю і годзе! — пагразіў дзядзька Лукаш, паказваючы на радыёпрыёмнік. — Гэта сіла нячыстая!

Тады радыёпрыёмнік перанеслі да Ігнацюка, а пазней яшчэ пагасцяваў ён крыху і ў хаце Абрамовічаў.

Вестка, што ў Грыбаўцах слухаюць Маскву, неўзабаве дакацілася і да паліцэйскага ўчастка ў Бераставіцы. Там даўно ўжо шукалі зачэпкі, каб прымкнуць гэтых грыбаўскіх бунтаўшчыкоў. Але аб гэтым ужо наступным разам.

**Віктар Рудчык**

(Працяг са стар. 6)



Зноў закусіў цыбулінкай..

(Працяг на стар. 11)

# Зорка
## Старонка для дзяцей


Рыгор Мароз

## ПЕЎНІК

Па падворку важна ходзіць певень. Чародку курак водзіць за сабою. Ён іх важаты. Адважны апякун. Апякуецца, як добры бацька, і даглядае, як клапатлівая, неспакойная маці.

Вось, напрыклад, ён знайшоў зернетка. Сам не з'есць. Кліча курак. Яны ўжо ведаюць. Чародкай бягуць да яго. Які тады ён важны! Навокал толькі ходзіць, крыло падняўшы. Як бы хацеў сказаць: „Вось які я добры! Сам не з'ем, а вам пакіну!"

А не дай Бог, суседскага пеўня ў сябе на падворку спаткае! Тады бяда! Вайна да смерці! Нездарма ж людзі гавораць: „Пеўнямі ў вочы скачуць!" Не раз і чалавек вымушаны ўмяшацца ў іх бойку. І ледзь іх раздзеліць. Вось як за курэй сваіх стаіць!

Або няхай толькі з'явіцца варона ці каршун! Крык развядзе на ўвесь падворак. Куры гэта ведаюць. Хаваюцца, хто куды. Як у салдат: „Паветраная трывога!" Так, так. Не смейцеся. У курэй так ужо бывае. На тое і ёсць іхні камандзір!

Спевам сваім певень кожны ранак будзіць. У адну абавязкова пару. Бачыце. Гэта вось гадзіннік! Не спозніцца ніколі! Вось каб і вы, дзеткі, так умелі. Не трэба было б мамам вас так доўга будзіць. І ў школу ніхто б не спазняўся.

А які дасканалы ён барометр. Дзедка наш не раз расказваў.

— Змена пагоды будзе, абавязкова, — казаў ён.

— Адкуль ведаеш? — дзівіліся мы.

— Што, не чулі? Пад вечар пеўні заспявалі. А яны аб гэтым найлепш ведаюць.

Бачыце, як многа можа наш хатні пеўнік! Праўда, яек ён не зносіць, але карысці ад яго шмат. І не шкадуйце ежы яму. Бо ён вельмі патрэбны на нашым падворку.

А людзі яшчэ гавораць так: „Каму вядзецца, у таго і певень нясецца".

А яно і так бывае. І самі не раз чуеце: курачка яйка знясе, а пеўнік какадакаць памагае. І яго „Ко-ко-дак! Ко-ко-дак!" — далей ад курынага чуваць. Ён галаснейшы, бо ён жа ж мужчына, і дужэйшы за курак. А калі яшчэ і прыгожы ён, і важна ходзіць між курамі, дык прыемна нават і паглядзець на яго.

І ведайце, каб пеўняў не было, дык і куркі звяліся б.

Юрый Камянецкі

## МУКІ КАХАННЯ

Сцёпка слухаў настаўніка і нічагусенькі не разумеў. Ён проста глядзеў у патыліцу сядзеўшай на першай парце выдатніцы Марылькі і вырашаў, якога колеру яе валасы.

— Самосюк, — звярнуўся настаўнік, — раскажы нам, што будзе...

З усяго, што гаварыў настаўнік, Сцёпка зразумеў толькі адно — яму, Сцёпку Самосюку, зараз уклеяць пару. І хоць, здавалася, зразумеў ён не многа, але затое правільна.

— Паглядзі, да чаго дакаціўся твой сын, — сказала мама, паказваючы бацьку дзённічак.

— Чаму? — спытаў тата, разглядаючы тоўстую двойку.

— Я глядзеў Марыльцы ў патыліцу, — шчыра прызнаўся Сцёпка.

— Гэта тая дзяўчынка з вялікімі блакітнымі вачыма? — пацікавіўся тата.

— Я не ведаю. Я глядзеў у патыліцу, — паўтарыў Сцёпка.

— Ён закахаўся, — трагічна канстатавала мама.

— „Любви все возрасты покорны", — з разуменнем адгукнулася бабуля.

„Старэйшых трэба слухаць", — падумаў Сцёпка.

Так упершыню ён даведаўся, што закахаўся. Нельга было губляцца, і Сцёпка не губляўся.

— Алё! Валік? Гэта я. — Сцёпка не выпадкова пазваніў Валіку. Той лічыўся ў класе чалавекам рашучым, ведаючым жыццё. — Я закахаўся ў Марыльку. Што цяпер рабіць?

— Вядома, пісаць вершы, — не задумваючыся, адказаў сябар.

„Сябры кепскага не параяць", — вырашыў Сцёпка і ўзяўся ўкладаць верш.

Ён нават не глядзеў цікавую праграму па тэлевізары, але і так нічога не выдумаў, апрача першага радочка. Але радочак гэты атрымаўся моцны.

— Я люблю цябе, Марылька, — бубніў Сцёпка, лежачы ў ложку і змагаючыся з ахапляючым яго сном.

На наступны дзень настаўнік задаў Сцёпку тое ж пытанне, што і напярэдадні.

„Я люблю цябе, Марылька", — хацеў сказаць Сцёпка, але прамаўчаў.

— Па суме двух выступленняў ты атрымліваеш чатыры пункты, — аб'явіў настаўнік, быццам ён вёў заняткі на фігурнаму катанню, а не па матэматыцы.

„І гэта каханне? — са злосцю думаў Сцёпка. — Як-небудзь і без яго пражыву".

Увесь вечар ён старанна ра-

(Працяг на стар. 10)



Адась Сэльвеструк, вучань трэцяга класа з Вялікіх Тыневіч, ужо даўно чытае „Зорку" і „Ніву". Фота Я. Чэрнякевіч.

Галіна Булыка

## ЗІМА

Без яркасці,
без гучнага параду
Вясёлых фарбаў
Палатно зімы.

Тры колеры —
касцяк счарнелы саду,
І белы снег,
І шэрыя дамы.
Тры колеры —
гармонія і згода.
Так манатонна
І прывычна так.
Тры колеры,
у іх уся прырода,
Якім нязвыклым
Стаў зімою свет!

За абалонь
блакітней роўнядзь лёду,
Празрысцей крона
За чарнюткі ствол.
У ціхай манатоннасці
прыроды
Угадваю адценняў
Хараство.

Міхась Губернатараў

## ГУДЗЕ ЗАВЕЯ БЕЛАЯ

Гудзе завея белая
Па сцежках і лясах,
Дзе восень калісь бегала,
Як рыжая ліса,

Дзе плавалі туманы
За сіняю гарой,
Дзе яблыкі крамяныя
Свяціліся наскрозь,

Дзе кошыкі рыпелі
З грыбамі на зары, —
Разгульваюць павольна
Калючыя вятры.

Сняжынкі ў небе рояцца —
То не пчаліны гул:
Ідзе зіма ваколіцай
У белым кажуху.

Анатоль Сербантовіч

## ЛЕС

На дрэвы густа іней сеў.
Пад серабрыстай плёнкай
Дубы, як замкі каралёў,
І вежамі — сасонкі.

Як абаронца, кожны сук
Тут ворага сустрэне
І у яго пашле, як лук,
Іглiц тугія стрэлы.

Язэп Васілеўскі

## ЗАДУМАЛАСЯ РЭЧКА

Зноў марозік прыстукнуў гулка,
Зноў задумалася рачулка:
Шлях нялёгкі, далёка плыць,
Ці не час адпачыць?

Смех і радасць паўсюды
крыляюць.
Першы баль свой сняжынкі
спраўляюць.
Дзеці звонка прабуюць лядок:
Ці не час на каток?

З рускай мовы
пераклаў М. Уарняўскі

 **ПАГЛЫБЛЯЙ**  **СВАЕ ВЕДЫ** 

### НЕЧАКАНЫЯ ЗАСТУПНІЦЫ

Вакол ані гуку, ані шолаху ў лютаўскім лесе. Толькі напрагаючы слух можна пачуць папіскванне гаечак, успырхваючых з галінкі на галінку елкі, адважна замацаваўшайся на ўскрайку яру.

Раптам адна з птушачак трывожна, голасна свіснула, і ўся чародка, быццам па камандзе, шарахнулася ў зараснікі.

У гэты час я ўбачыў ляцеўшую над лесам вялікую шэрую птушку. Падумаў: „Няўжо ястраб-цецеравятнік?"

Роўна махаючы крыламі, птушка зрабіла два-тры кругі над ярам. А потым апусцілася па-зладзейску недзе недалёк — ні то на асіну, ні то на бярозу.

Ля падножжа старой елкі, на галінках якой сядзелі нядаўна быстрыя гаечкі, увесь снег быў засыпаны лупінкамі шышак. Відаць, і вавёрка тут жывілася.

Я толькі сабраўся падацца ўлева, як па чорным камлі елкі па сметанна-крэмавых нацёках смалы спусцілася ўніз вавёрка, лёгкая на паміне. Яна пакапала лапкамі, нібы гадліва, жухлы снег, злосна пацокала і паскакала, горбам выгнуўшы спіну, да суседняга дрэва.

У наступны момант на вавёрку каменем упала нешта цёмнае. І адразу адарвалася ад зямлі і ўзляцела ўверх, моцна трымаючы ў вострых кіпцюрах жывога звярка.

— Кыш, кыш! — апамятаўшыся, замахаў я шапкай на ястраба-цецеравятніка, але была ўжо позна.

Драпежнік узнімаўся ўсё вышэй і вышэй, маючы, відаць, намер апусціцца на бліжэйшае дрэва, каб раздзерці здабычу.

І тут, адкуль ні вазьміся, з'явіліся з крыкам сарокі. Даўгахвостая дружная чарада накінулася на ястраба.

Драпежнік круціў галавой у розныя бакі, злосна выкаціўшы жоўтыя вочы, пагрозліва разяваў дзюбу. Ён хацеў уцячы ад пагоні, але сарокі адважна кідаліся на ястраба і зверху, і знізу, да таго часу, пакуль ён не выпусціў з пазуроў неасцярожную вавёрку.

Паранены звярок упаў у гурбу па другі бок яру. Магчыма, ён і паправіцца, і зажывуць яго раны.

Сарокі ж, нечаканыя і адважныя заступніцы вавёркі, яшчэ доўга праследавалі ныраючага між галінамі дрэў ястраба, пакуль ён не забіўся ў самую гушчыню маладога ельніка.

А я падумаў: „Не так сабе гаварылі старыя людзі: „Смеласць гарады бярэ!"

**Віктар Баныкін**

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

* * *

— Сцёпка, ты сапраўды хочаш паплаваць? Вада ж надта халодная!..

— Нічога. Я цёпла адзеты.

* * *

— Мама, Пецька муху праглынуў. Але не бойся, я яму лыжку мухазолю даў выпіць.

* * *

Настаўнік:

— Пры награванні матэрыя пашыраецца, а пры ахаладжэнні курчыцца. Прадумайце прыклад.

Вучань:

— Канікулы! Летам пашыраюцца да двух месяцаў, а зімой курчацца да двух тыдняў.

* * *

— Як цябе завуць? — пытаецца дзядка малога хлопчыка.

— Не ведаю.

— А як цябе маці кліча, калі мае для цябе цукерак?

— Тады мяне не трэба клікаць, я сам прыбягу.

* * *

Першакласнікі пайшлі з настаўніцай на экскурсію ў прыроду. Дзеці разглядаліся, а настаўніца паказвала і пясняла. Раптам яна паклікала ўсіх дзяцей да сябе.

— Глядзіце, дзеці. Гэта пчолка. Яна дае нам мёд.

Усе дзеці ўважліва слухаліся і прыглядаліся да пчолкі. А Пеця нешта разглядаў на іншай кветцы, а потым спытаў:

— Тут вось таксама пчолка. А што яна нам дае?

* * *

— Чаго плачаш? — пытаецца жанчына ў малога хлопчыка на вуліцы.

— У нас дома сёння пончыкі мама пячэ.

— Дык чаго ж ты плачаш?

— Бо я не магу трапіць дадому.

(Працяг са стар. 9)

### МУКІ КАХАННЯ

біў урокі, і калі настаўнік зноў яго выклікаў да дошкі, Сцёпка задзівіў настаўніка глыбінёй ведаў. Ведаў было так многа, што яны здзівілі нават Марыльку.

Пасля ўрока яна падышла да Сцёпкі.

— Кажуць, ты ў мяне закахаўся? — зусім сур'ёзна спытала яна.

— Кажуць, — з падазрэннем адказаў Сцёпка.

— А ты ведаеш, гэта відаць, — працягвала сваю думку Марылька. — Так хутка навучыцца матэматыкі мог толькі чалавек, зведаўшы глыбокае пачуццё...

Сцёпка не спрачаўся. Пачуцці ён не мераў, таму і спрачацца не хацеў. Вось тэмпературу ён мераў штовечар. А раптам узнімецца, тады можна не ісці ў школу...

А думкі Марылькі ўсё беглі...

— Нездарма вядома, — сказала яна, — што каханне ўзвышае чалавека і робіць яго высакародным.

Быць высакародным Сцёпку, вядома, хацелася, але не такой цаной.

— Ведаеш, Марылька! — рашыўся ён — Ты слухам не вер.

— У якім сэнсе?

Але Сцёпка не адказаў, ён ішоў і думаў, што калі яго возьмуць у палон ворагі, ён вытрымае кожныя мукі, але мукі кахання — гэта не для яго.

## ПАЗНАЁМІМСЯ

* * *

СССР, 344022, г. Ростов-на-Дону, ул. Пушкина, д. 231, кв. 24. Судницыной Вике.

* * *

СССР, 344095, г. Ростов-на-Дону, пос. Чкаловский, ул. Штахановского 21/1, кв. 20. Середа Карине. Дзяўчынцы 11 год.

* * *

СССР, 344010, г. Ростов-на-Дону, ул. Грисенко, дом 68а, кв. 2. Мирашниковой Тане и Серединой Маше. Дзяўчынкам па 12 год.

* * *

СССР, 346500, г. Шахты, Ростовской области, пр. Победа Революции, д. 99, кв. 55. Затеевой Жене. Дзяўчынка вучыцца ў шостым класе.

* * *

СССР, 300000, г. Тула, ул. Гоголевская, д. 55а, кв. 3. Архиповой Наташе. Дзяўчынка вучыцца ў пятым класе.

* * *

УССР, 349340, Ворошиловградская обл., г. Краснодон-6, ул. Терешковой, д. 18а. Ткаченко Лене. Дзяўчынка вучыцца ў шостым класе.

* * *

СССР, 150052, г. Ярославль, проспект Держинского, 29/71, кв. 19. Орловой Марии. Хоча перапісвацца з дзяўчаткамі 12-13 год.

* * *

СССР, 357441, Ставропольский край, Железноводский р-н, п. Иноземцово, ул. Пушкина, 6, кв. 2. Кочкаревой Елене. Дзяўчынка вучыцца ў восьмым класе.

* * *

УССР, 349380, Ворошиловградская обл., Краснодонский район, г. Молодогвардейск, ул. Земнухова, д. 3. кв. 19. Васильевой Галине. Дзяўчынка вучыцца ў пятым класе.

* * *

БССР, 220115, г. Мінск-115, вул. Асаналіева, 26, кв. 165. Надзя Герасіменка, вучаніца 5 класа.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. К. Лібкнехта, 45, кв. 21. Лена Стасевіч, вучаніца 5 класа.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 55, кв. 22. Таня Лескавец, вучаніца 3 класа.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, 2 пер. Р. Люксембург, 3-А, кв. 58. Лена Завадская, вучаніца 3 класа.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, 2 пер. Р. Люксембург, 3-А, кв. 58. Оля Завадская, вучаніца 3 класа.

* * *

СССР, 197227, г. Ленинград, пр. Испытаний, 6/1/221. Шевченко Галине. Дзяўчынка вучыцца ў шостым класе.

* * *

СССР, 197348, г. Ленинград, ул. Аэродромная, д. 11, корпус 3, кв. 57. Магидовой Тане. Дзяўчынка вучыцца ў шостым класе.

## ПІШУЦЬ ШКОЛЬНІКІ

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!

Нас завуць Мірка Васілюк і Еля Саковіч. Нам трынаццаць год. Мы вучымся ў сёмым класе школы ў Пасынках. У нашым класе 20 чалавек. Нашай выхавацелькай з'яўляецца Валянціна Іванчук і яна вядзе ў нас урокі беларускай мовы. У нашым класе ўсе вывучаюць гэты прадмет. Мы вельмі ахвотна і з цікавасцю чытаем Цябе, „Зорка"!

Да пабачэння.

**Мірка і Еля.**

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А



Адшукай членаў экіпажа касмічнага карабля. Яны маюць аднолькавыя касцюмы. Малявала Ірына Цыбік-Лемеш.



Адрас рэдакцыі: „Зорка", 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

Байкі

## МЕТАМАРФОЗА

У лес да Мядзведзя прыехала з цэнтра камісія на чале з самім Ільвом. І Мядзведзь павёў сябе вельмі дзіўна: ён трымаўся пачціва, але не падлізваўся да Льва і яго світы, не згінаўся перад імі ў тры пагібелі, паказваў усё, што трэба, з пачуццём уласнай годнасці. У тыя дні, нягледзячы на занятасць, Мядзведзь быў асабліва ўважлівы да Вавёркі, Янота, Зайца, Бурундука і іншай лясной драбязы, на якую звычайна ніколі не звяртаў увагі. Усе ў лесе здзіўляліся метамарфозе, што адбылася з Мядзведзем, але больш за ўсіх не пазнаваў сябе сам Мядзведзь...

— Прысніцца ж такое, — бурчэў, прачынаючыся, Таптыгін. — Захварэў, пэўна, ці ператашуйся, трасца мне ў бок. А можа, перапіў надоечы? З кім гэта я піў, дай прыпомю...

**Язэп Таўшчэзны**

## АСЁЛ ПРА СЛАНА:

„Ну і дурань слон! Каб у мяне быў такі хобат, я нікому не дазволіў бы садзіцца вярхом".

(Працяг са стар. 11)




(Працяг на стар. 1)



З чаго смяюцца суседзі.




## ТРОЙЧЫ

Прадаваў карову задрыпанец, людзі яго і пытаюць, колькі яна малака дае. А задрыпанец кажа:

— Не буду хлусіць, а тры разы дае па вядру.

Купіла адна жанчына тую карову, прывяла дадому ды стала даіць. Карова нагою па вядру — хрась... І так — раніцай, днём і вечарам.

## ЦЕРАЗ АДНАГО

Малады афіцыянт пытае вопытнага:

— Чаму ў адных наведвальнікаў вы бярэце чаявыя, а ў іншых — не?

— Не бяру ў тых, каго ўжо ашукаў. Сумленне не дазваляе.

## ЧЫЯ ЛЕПШАЯ

Зышліся двое сяброў, выпілі па чарцы і пачалі хваліцца сваімі жонкамі. Адзін кажа:

— Вось у мяне жонка, як палатае штаны ці кашулю, то не пазнаеш, ці латаны, ці не.

— А ў мяне жонка, як высцірае кашулю ці штаны, то не згадаеш, ці сціраны, ці не.

**З „Весніка Задрыпоніі"**

## ПРЫШСКАМ — БОЙ!

Поспехам увянчалася праца экспертаў Шэракуэаўскай карціннай галерэі. Як удалося ім устанавіць, партрэт „Мужчына ля тэлефона", прыпісваны пэндзлю Леанарда да Вінчы, у сапраўднасці належыць мясцоваму мастаку І. Малярчуку.

Дырэктар карціннай галерэі С. Праваранюк за прыпіскі вызвалены ад займанай пасады.



**Жонкі пра мужоў: „Раўнуе — значыць, кахае". Мужы пра жонак: „Раўнуе — значыць, прыкмеціла".**

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Лорд Джозеф выходзіць з дому, слуга яго пытае:

— Калі ледзі пашле мяне за вамі, дзе вас не трэба шукаць?

★

Малітва гімназіста:

— Божа! Зрабі так, каб Лондан стаў сталіцай Даніі, як я напісаў учора ў кантрольнай па геаграфіі...

★

Вядомы спартсмен захварэў грыпам. Ён пытае ў лекара:

— Якая ў мяне тэмпература?

— Сорак градусаў.

— А сусветны рэкорд?

★

— Ведаеш, Марыта, я не веру ў любоў з першага погляду.

— Чаму?

Тут падышоў Кіндзюліс і кажа:

— А як ты з першага погляду даведаешся, колькі ён зарабляе?



— Даны і панове! У гэтых абставінах вы, зразумела, можаце патрабаваць палавіну грошай назад!..

## УСЁ Ў ПАРАДКУ

— Кум, куды гэта ты самагонны апарат нясеш?

— У міліцыю.

— З якога гэта дзіва?

— Ды зрабіў новы.



## ЗНЕШНЕ І ЗНУТРЫ

Выйшаў дзядзька у загмагі,
Кіраваў —
Не меў заўвагі.
Узначаліў гандальбазу —
Не папаўся там ні разу.

Дзядзька жвавы,
Дзядзька хвацкі,
Шмат дзядзькоў бывае
ў дзядзькі.
Памагае брату,
Свату,
Выручае ўсіх па блату.

Робіць дзядзька ўсё
са спрытам.
Дзядзька робіць шыта —
крыта.
Знешне шчыры дзядзька
гэты,
А знутры — дзялок адпеты.

**Рыгор Яўсееў**



— Адразу ж пасля працы іду на каўзанку.




## МОДА

У стварэнні камфорту для хатніх жывёлін ад амерыканскіх таўстасумаў не адстаюць і французскія. Так у адным фешэнебельным парыжскім атэлі адміністрацыя вывесіла наступную дасціпную аб'яву: „Мы пускаем сабак у нашу гасцініцу таму, што яны не чысцяць абутак шторамі, не калекцыяніруюць чайныя лыжкі, не біруць на памяць сурвэткі і прасцірадлы, добра ставяцца да людзей і прыводзяць з сабою толькі добрых пастаяльцаў..."

У ісландскім горадзе Рэйк'явіку яшчэ 62 гады таму назад дзеля захавання гігіены было забаронена законам утрыманне хатніх жывёлін. Але моднае захапленне перамагае закон. Многія ісландцы і да гэтай пары патаемна ўтрымліваюць сабак і калі аднойчы журналіст гарадскога радыё Р. Уінсон данёс у паліцыю, што вышэйадзначаны закон парушае нават міністр фінансаў краіны Альберт Гудмундсон, і з гэтай нагоды ўсчаўся скандал, міністр адчайна заявіў, што чым адправіць у ссылку любімую Люсі, дык лепш яму самому эмігрыраваць.




**Калі адчуваеш, што сядзіш не на сваім месцы, праяві ветлівасць — уступі іншаму.**